наша
# свабода

№37(124) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

6 КРАСАВІКА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## ЗАЯВА лідэра БНФ

Рэакцыя ўладаў на падзеі ў Менску й Горадні 25 сакавіка сьведчыць пра дзьве акалічнасьці.

Па-першае, рэжым зноў засьведчыў сваю антыбеларускасьць. Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка гэтаксама, як беларуская гістарычная памяць, беларуская мова, наш нацыянальны сьцяг і герб «Пагоня», выклікае асаблівую нянавісьць лукашысцкіх уладаў. Напярэдадні нашага галоўнага сьвята афіцыёзная прапаганда выліла цэбры паклёпу на беларускіх незалежнікаў – як на пачатку 20 ст., гэтак і на цяперашніх. Неадэкватна «пагрозе» былі змабілізаваныя сілавыя структуры; асабісты ўдзел у зачыстках і «хапунах» на вуліцах Менску й Горадні бралі высокія службовыя асобы (Ярмошын, Навумаў, Мясьніковіч, Сівакоў); урэшце «працэсы» над затрыманымі цалкам рэжысаваліся ў адміністрацыі Лукашэнкі. Гэта ў той час, калі акцыі былі абсалютна, падкрэсьлена мірнымі.

Не магу не згадаць пра акалічнасьці фарсу, які чыніўся супраць мяне ў судзе Цэнтральнага раёну г.Менску. Судзьдзя Н. Вайцяховіч, двойчы (!) пералічваючы мне мае правы, «забылася» назваць права на карыстаньне роднаю мовай й перакладніка. Калі ж я заявіў хадайніцтва аб слуханьні справы па-беларуску альбо запрашэньні перакладніка, судзьдзя абвінаваціла мяне ў спробах наўмысна зацягнуць працэс і незаконна адхіліла хадайніцтва (пагадзіўшыся запрасіць перакладніка толькі пасьля пратэсту адваката). Я ацэньваю гэта як абразу маёй нацыянальнай годнасьці й спробу прынізіць беларускую мову.

Па-другое, паводзіны рэжыму напярэдадні й у дзень 25 Сакавіка засьведчылі яго слабасьць і няўпэўненасьць. Пасьля юрыдычна нікчэмнага адказу Менгарвыканкаму на нашую заяўку, у якім ня быў акрэсьлены від дазволенай акцыі, але нас усё роўна адпраўлялі на Бангалор, гарадзкое міліцэйскае начальства пайшло на кампраміс з намі й пагадзілася на пераход ад Юбілейнай плошчы да пл. Свабоды. Гэты кампраміс быў зламаны вышэйшым начальствам у нядзелю, але й наступны кампрамісны маршрут, які быў часткова пройдзены ўдзельнікамі акцыі, закончыўся «зачысткаю». Урэшце, расправа над мірнымі грамадзянамі паказала, што рэжым ня меў яснай стратэгіі, дазваляць акцыі адбыцца мірна ці душыць яе сілаю. Рашэньні прымаліся ўладамі пад уплывам эмоцыяў, у апошні момант, былі супярэчлівымі й прыводзілі да канфліктаў паміж рознымі сілавымі структурамі. Асабісты ўдзел чыноўнікаў высокага рангу ў падзеях сьведчыць пра адсутнасьць у іх даверу да выканаўцаў сярэдняга зьвяна.

Такім чынам, рэжым сёньня ня мае яснай стратэгіі сваіх паводзінаў у дачыненьні да апазыцыйных яму сілаў (з адным выняткам: усе праявы незалежніцкай палітычнай лініі ўлады разглядаюць як адназначна варожыя).

У дэмакратычных сілаў краіны ёсьць шанец перамагчы й адхіліць ад улады антыбеларускі рэжым, калі яны будуць дзейнічаць згуртавана й у рамках супольна выпрацаванай эфэктыўнай стратэгіі. Лічу, што такую магчымасьць сёньня дае толькі інфраструктура Каардынацыйнае рады дэмакратычных сілаў.

Посьпех акцыі 25 Сакавіка й разгубленасьць уладаў павінны натхніць нас на новыя зьдзяйсьненьні. Чарнобыльскі Шлях, які адбудзецца акурат у 15-ю гадавіну нашае нацыянальнае трагедыі, павінен прайсьці пад лёзунгам «Дзеля Будучыні!» й стаць галоўнаю падзеяй напярэдадні выбараў. Усе – на Шлях!

**Вінцук ВЯЧОРКА,**
**Акрэсьціна, камэра № 12**

# Канец дэмакратыі ў Расіі



● У сераду каля карэспандэнцкага пункта НТВ у Мінску сабралася да 50 прадстаўнікоў маладзёжнага руху «Зубр». Яны скандзіравалі лозунгі ў падтрымку журналістаў тэлекампаніі

*Тое, пра што даўно папярэджвалі расійскія інтэлектуалы, нарэшце адбылося. Дэмакратычнае адзенне новай Расіі аказалася недаспадобы яе новаму кіраўніцтву, выгадаванаму на лепшых савецкіх творах «пра шпіёнаў».*

Захоп улады на расійскай тэлекампаніі НТВ прадстаўнікамі «Газпром-Медиа» яскрава сведчыць, што больш вальнадумства і крытыкі ў свой бок Крэмль не пацерпіць.

Канцэрн «Газпром» – гігант, цалкам падкантрольны дзяржаве. І цяпер надышоў час разлічыцца за даброты, атрыманыя ад яе. Кіраўнік «Газпром-Медиа» Альфрэд Кох па самыя вушы замазаны ў карупцыйным скандале, улада мае супраць яго кілаграмы кампрамату і нават закрытую крымінальную справу. Не менш «грахоў» вісіць і на новым генеральным дырэктары НТВ, абраным пад ціскам «Газпром-Медиа», – амерыканцы расійскага паходжання Барысе Ёрдане. Таму несумненна, што НТВ будзе вымушанае праводзіць цяпер тую лінію, што будзе даспадобы Крамлю.

10 кастрычніка 1993 года тэлекампанія НТВ пачала сваё вяшчанне на Санкт-Пецярбургскім 5-м канале тэлебачання. Першай у эфір пайшла інфармацыйна-аналітычная праграма «Итоги» Яўгена Кісялёва. З таго часу гэты дзень святкуецца як дзень нараджэння НТВ, паведамляе сайт *www.ntv.ru*. У тэлекампаніі ёсць і іншы дзень нараджэння – калі паводле рашэння Барыса Ельцына 17 студзеня 1994 года НТВ упершыню выйшла ў эфір на 4-ым агульнарасійскім канале, наладзіўшы такім чынам свае перадачы не толькі па ўсёй Расіі, але і на суседнія краіны.

Як паведамляе сама тэлекампанія, яе аўдыторыя складае цяпер 110 мільёнаў чалавек. Штодзённае вяшчанне НТВ складае каля 20 гадзінаў. На гэты момант у тэлекампаніі працуюць каля 1.200 чалавек.

Ад самага пачатку НТВ даводзіла да расійскага гледача навіны, якія замоўчваліся на іншых каналах.

*Заканчэнне на стар.3*

# Получили еще одну пощечину

## *Мандаты членов нынешнего парламента Беларуси продолжают быть «волчьими билетами» для евроатлантических парламентских структур*

Очередной пощечиной палаточным заседателям и их кукловодам стало последнее решение Постоянного комитета Парламентской ассамблеи *NATO*, заседавшего в Риме и решившего продлить срок непризнания этого парламента. Преодолеть изоляцию должны демократические президентские выборы. Но А.Лукашенко вместо даты выборов объявил время проведения воинских учений.

Как известно, в конце марта Минск посетила делегация ПА *NATO* с целью изучить нынешнюю внутриполитическую ситуацию в Беларуси. Любопытство натовские парламентарии пытались проявить максимальное. Оно выразилось, к примеру, в том, что их собеседниками были как представители оппозиции, так и власти, а также эксперты негосударственных исследовательских структур. Продолжая маяться во внешнеполитической изоляции, правящий режим попытался представить публике приезд гостей из *NATO* так, будто они откликнулись на приглашение палаточных депутатов. Это вынудило посланцев ПА *NATO* сделать специальное заявление, в котором такая инициатива белорусских властей была опровергнута. Визит готовился итальянским посольством в Минске, которое представляет интересы *NATO* и белорусским МИДом. Во время своего краткого визита натовские парламентарии встречались и с деятелями обеих палат законодательного органа Беларуси. При этом подчеркивалось, что встречи с ними отнюдь не означали признание этого органа существующей в Беларуси политической системы.

Стоит заметить, что к визитам представителей ряда парламентских структур – ОБСЕ, Совета Европы, Европарламента, а теперь и *NATO*, руководство Беларуси все больше относится с подчеркнутым безразличием. Мол, сами с усами и в учителях, советчиках не нуждаемся. И идти будем своим путем. Правда, куда, неизвестно. Поэтому гостей проигнорировали в госсекретариате Совета безопасности, других госструктурах. В личных беседах с некоторыми членами делегации ПА *NATO* можно было понять, что такое отношение к делегатам было воспринято как демонстрация слабости и неуверенности правящего режима.

*Окончание на стр.3*

## Ловы графіцістаў

Уначы з 4 на 5 красавіка ў Мінску былі затрыманыя чатыры актывісты руху «Зубр», у прыватнасці, Аляксей Шыдлоўскі і Цімох Дранчук. Хлопцаў затрымалі каля аднаго з мінскіх платоў, дзе было напісана «Дзе Завадскі?», «Дзе Ганчар?», «Дзе Захаранка?» Дарэчы, затрыманне праводзілі міліцыянты з аўтаматамі - справа ў тым, што апошнія тры дні мінская міліцыя працуе ва ўзмоцненым рэжыме, бо ловіць якраз графіцістаў.

На час падпісання гэтага нумара «зубраўцы» знаходзіліся ў Цэнтральным РУУСе сталіцы. На «Зубраўцаў» заводзіцца Крымінальная справа за пашкоджанне будынкаў. Ім пагражае некалькі месяцаў прымусовых работ альбо вялізны штраф. Справу вядзе следчы Спраўцаў.

Што цікава, незалежную прэсу да затрыманых не дапускаюць і ніякіх падрабязнасцяў не кажуць, а вось здымачную групу БТ у Цэнтральны РУУС пусцілі рабіць нейкі сюжэт. Праўда, невядома, пра што гаварылі журналісты БТ з сябрамі «Зубра».

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

## НАВІНЫ

■ **Беларусь падпісала з Масквой дамову на пастаўку туды харчовай прадукцыі.** У расійскай сталіцы, баючыся еўрапейскага яшчуру, будуць купляць беларускае мяса – 5 тысячаў тонаў ялавічыны, 5 тысячаў тонаў мяса птушкі і 7 тысячаў тонаў свініны.

■ **Арганізатары выставы «Маторшоу», якая пройдзе ў Мінску з 27 красавіка па 1 траўня, кажуць, што разлічваюць на 50 тысячаў наведвальнікаў.** Удзел у выставе мусяць узяць такія вядомыя фірмы, як «Ауды», «Мерседэс», «Пежо», «Фіят», «Форд», «Джэнерал Мотарз» і іншыя. Кошт квітка на «Маторшоу» складзе 5 тысячаў рублёў.

■ **Адбылося чарговае, па ліку чацвёртае за 2001 год, падаражанне гарэлкі.** Гэтым разам кошты на яе ўзраслі на 4%. Цяпер кошт паўлітровай пляшкі гарэлкі сягае 1.700 рублёў.

■ **Пасольства Японіі ў Беларусі выдала на беларускай мове буклет пра гісторыю і традыцыі, а таксама пра навукова-тэхнічнае і культурнае жыццё сваёй краіны.** Шматкаляровы буклет раней быў выдадзены на англійскай ды шэрагу іншых моваў свету.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1325**

# Са стратэгіяй перамогі

У сакавіку Малады Фронт правёў 20 акцыяў з самых розных нагодаў – ад жаноцкага свята да Дня метэаролага, калі падчас перформанса каля прэзідэнцкай адміністрацыі быў запушчаны зонд з надпісам «Саша ў пралёце». Між тым, лідэр МФ Павел Севярынец даводзіць, што гэтая «чарада лятучых акцыяў» была толькі размінкай да асноўнай кампаніі, што мусіць разгортвацца ўсё актыўней, чым бліжэй будуць прэзідэнцкія выбары. Кампанія ці «стратэгія перамогі» па арганізацыі на выбары 1,5 мільёнаў маладых людзей, як самай актыўнай і дэмакратычна настроенай часткі грамадства, называецца проста — Малады Фронт.




На прэс-канферэнцыі было таксама паведамлена пра дзве апошнія вандроўкі маладафронтаўцаў – да Масквы і да Прагі. Дарэчы, аб'ядноўвае іх тое, што і ў паездцы ва ўсходнім і ў падарожжы ў заходнім накірунках сябраў МФ увесь час пільнавалі беларускія спецслужбы. У вагонах цягнікоў, дзе ехалі дэлегаты Маладога Фронту, учыняліся шматгадзінныяператрусы і допыты.

У Маскве эстафету ад беларускага КДБ узялі тамтэйшыя праваахоўнікі. Пікет супраць Саюза Беларусі і Расіі, наладжаны МФ разам з расійскімі Антыфашысцкім маладзёжным дзеяннем і моладдзю Саюза правых сілаў каля Дзярждумы 3 сакавіка, скончыўся затрыманнямі. Яны пачаліся тады, калі пікетоўшчыкі намагаліся спаліць тэкст Саюзнай дамовы. Дарэчы, у пастарунку маладафронтаўцам выпісалі позвы ў адзін з маскоўскіх судоў на 4 сакавіка, але тыя ранкам гэтага дня былі ўжо дома. Праўда, жартуюць цяпер, ці не будзе абвешчаны ўсесаюзны вышук?

У Празе ўсё праходзіла спакайней. Сябры Маладога Фронту і Беларускай асацыяцыі маладых палітыкаў сустракаліся там з прадстаўнікамі чэшскай палітычнай эліты (напрыклад, з віцэ-спікерам Сената, загадчыкам канцыляры прэзідэнта В.Гавела, з кіраўнікамі партыі Унія Свабоды і Грамадзянскай дэмакратычнай партыі), а таксама з беларускімі маладымі эмігрантамі, што вучацца ў чэшскіх універсітэтах.

Як кажуць у МФ, на Чарнобыльскі шлях 26 красавіка ў Мінск прыедзе багата як чэшскіх палітыкаў і журналістаў, гэтак і традыцыйна наведваюцца чальцы расійскіх АМД і СПС. А дагэтуль маладафронтаўцы правядуць яшчэ шэраг акцыяў – у абарону тэлеканала НТБ і свабоды слова ў Расіі, да Дня псіхічнага здароўя, а таксама з лозунгамі «Мілошавіч гатоў, Лукашэнка – будзь гатоў».

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Галоўны рэсурс Лукашэнкі

Учора ў Мінску пачаўся «Рэспубліканскі семінар-нарада з удзелам кіраўнікоў мясцовай вертыкалі». Семінар працягваецца да сённяшняга вечара.


Фота IREX/ProMedia

Афіцыйная мэта, для якой чыноўнікаў з усёй Беларусі (кіраўнікоў гарадскіх і раённых выканкамаў, а таксама начальнікаў адміністрацыяў гарадскіх раёнаў) паклікалі ў Мінск – гэта «падвышэнне эфектыўнасці працы» мясцовай вертыкалі. Але натуральна, што напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, запланаваных на восень, улада проста праводзіць «зборы» накшталт спартыўных для таго, каб зарыентаваць мясцовае начальства на перамогу Саміведаецкага.

Задача гэтая – не менш адказная, чым перамога на Алімпійскіх гульнях, таму і трэнеры адабраныя вельмі сур'ёзныя: старшыня Мінскага аблвыканкама Мікалай Дамашкевіч (былы старшыня Дзяржаўнага камітэта кантролю), старшыня Брэсцкага аблвыканкама Васіль Далгалёў (былы першы віцэ-прэм'ер), старшыня Магілёўскага аблвыканкама Барыс Батура (былы віцэ-прэм'ер), старшыня Віцебскага аблвыканкама Уладзімір Андрэйчанка і мэр Мінска Міхаіл Паўлаў.

Апроч таго, з дакладамі перад «мясцовай элітай» выступаюць прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын (тэма – «Сацыяльна-эканамічнае развіццё краіны»), кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч («Дзейнасць кіруючых кадраў у сучасных умовах»), а таксама старшыня Дзяржкантролю Анатоль Тозік («Вынікі кантрольнай дзейнасці»).

Сёння, як чакаецца, у Палацы Рэспублікі перад чыноўнікамі на адкрыцці пленарнага паседжання выступіць сам Аляксандр Лукашэнка. Ён раскажа пра падвышэнне эфектыўнасці працы кіруючых кадраў.

Дарэчы, не забытая і культурная праграма – учора адміністратыўных работнікаў вадзілі на оперу «Князь Ігар».

Рэгіянальнае чынавенства – асноўны рэсурс А.Лукашэнкі, які заклікаены забяспечыць ягоную перамогу «на месцах». Калі іншым кандыдатам неабходна ствараць сваю групу падтрымкі, шукаць прыхільнікаў і плаціць ім грошы за працу, то для кандыдата А.Лукашэнкі гэта ўсё інакш. Мясцовыя царкі прама зацікаўленыя, каб цяперашні кіраўнік дзяржавы заставаўся на сваёй пасадзе як мага далей, бо яны разумеюць: зменіцца ўлада ў Мінску, зменіцца і на месцах. І нікому яны больш не будуць патрэбныя.

Вядома, што пэўная частка рэгіянальных кіраўнікоў скептычна ставіцца да кіраўніка краіны – і для праверкі лаяльнасці гэтых асобаў іх таксама паклікалі ў Мінск. Для таго, каб у выпадку неабходнасці, замяніць на іншых, больш надзейных. Часу да восені застаецца ўсё менш, і любая памылка можа стацца фатальнай для «кандыдата ад улады».

Але «прамыванне мазгоў» апошнім часам вядзецца не толькі для кіраўнікоў. Вядзецца актыўная «гастрольная дзейнасць» па ўсёй Беларусі адказных чыноўнікаў з Мінска разам з «інфармацыйна-прапагандысцкімі групамі». Чаго варты толькі візіт дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі – памочніка прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы Урала Латыпава ў Слуцк, які адбыўся ўчора! Афіцыйнае агенцтва БелТА паведаміла, што група збіраецца «растлумачваць сацыяльна-эканамічнае значэнне і мэты Саюзнай дамовы, усебаковых сувязяў паміж Беларуссю і Расіяй, што ўзмацняюцца». Паводле агенцтва, «падчас паездкі плануюцца сустрэчы з працаўнікамі мясцовай «вертыкалі», праваахоўных органаў, ваеннаслужачымі».

Можна ўявіць сабе, наколькі сур'ёзныя намеры ў А.Лукашэнкі, калі такія людзі, як У.Латыпаў, выязджаюць «растлумачваць на месцы» мэты і задачы.

Дарэчы, побач – яшчэ адно паведамленне. Пра іншую інфармацыйна-прапагандысцкую групу, у склад якой уваходзіць старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў Аляксандр Білык. Група гэтая ўчора сустракалася з прафесарска-выкладчыцкім калектывам Віцебскай акадэміі ветэрынарнай медыцыны і педагагічным калектывам сярэдняй школы №34 Віцебска. Можна быць упэўненым, што на такія сустрэчы будуць пакліканыя выкладчыкі не толькі з гэтай акадэміі, але і з усіх вышэйшых навучальных установаў абласнога цэнтра. Тое ж датычыць і сустрэчы ў школе. І чым бліжэй восень, тым больш будзе такіх «выхадаў у народ». З заклікам галасаваць – за Саміведаецкага.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Волк нужен властям,

*На прошлой неделе варшавский суд положительно рассмотрел просьбу бывшего белорусского бизнесмена Леонида Волка об изменении ему меры пресечения и освободил из-под ареста. Как уже сообщала НАША СВАБОДА, Л.Волк был задержан польскими службами в начале февраля на основании листа об аресте, высланного белорусской прокуратурой по линии Интерпола. Леонид Волк, владелец СП «Метинком», обвиняется в том, что не рассчитался по налогам с белорусским государством.*

Наш корреспондент в Варшаве встретилась с Леонидом Волком после его освобождения.

***— Насколько я понимаю, прилетая в Варшаву, вы не ожидали подобного поворота событий: арест, возможная перспектива экстрадиции в Беларусь...***

— Честно говоря, я не мог поверить в происходящее. Тем более, что за последние 3 года посетил Австрию, Францию, Германию, Италию, Литву. И никаких проблем не было. Поэтому я пережил шок: я не был готов к этому морально, не готов был защищаться – вся документация там. У меня даже связи «с миром» не было: пограничная служба не предоставила мне адвоката, мне не позволили позвонить домой, консулу. Они спокойно сказали: мы всем напишем, но сколько это будет идти, неделю, две... И они честно написали. Но брали меня очень жестко — начиная от группы захвата в масках. Очень неприятно было носом к земле идти по Варшаве.

***— То есть не было никакой скидки на «белорусский фактор»? Поляки ведь неплохо знают ситуацию в Беларуси, и случаи, когда при помощи Интерпола Лукашенко пытается разделаться с неугодными, уже имели место.***

— Была любопытная ситуация. Когда через два дня меня из полиции забирали в суд, то жестко охраняли: конвоиры сидят по обе стороны, в бронежилетах, вооружены, гранат только не было. Но когда они дело послушали, отношение сразу изменилось, и наручники сменили: уже не за спиной надевали, а впереди. Начальник караула был без маски, и я с ним мог разговаривать... Меня порадовала эта метаморфоза. Прокурор – женщина лет 30-35 — когда меня привели и сняли наручники, спросила: «Готовы ли вы на добровольную экстрадицию в Беларусь?» Я на это: «Вы, наверное, шутите?!» — «Я должна по протоколу спросить». Тогда я отвечаю: «Нет».

Судья также задавал этот вопрос. Правда, когда судья спросил, что я могу пояснить по формулировке обвинений белорусской прокуратуры, зачитав ее, то я ответил, что ничего не могу, поскольку она сложна для понимания... Адвоката я увидел только в суде, ему было лет 80, он представился, выдержал паузу и сказал: «Тебя посадят, то есть дадут санкции, а если ты не возражаешь, я пошел, у меня нет времени». Я не возражал.

***— Вы просидели более чем полтора месяца под экстрадиционным арестом. Каковы там условия?***

— В польской тюрьме условия сносные: сухо, тепло, есть телевизор, выдают белье, кормят вполне прилично и много, хотя и не так, как хотелось бы. «Обслуживающий персонал» мягок и видно, что их муштруют психологи: они не идут на конфликт, даже если их провоцируют, стараются беззлобно гасить его, если, конечно, не доходит до насилия со стороны заключенных.

Это варшавский следственный изолятор, самый большой в Польше и, говорят, самый большой в Европе – на 3 тысячи человек. Это не экстрадиционная тюрьма или отдел. А на «карном» отделении, куда попадают уже после приговора, условия еще более вольготные: там, например, установлены телефоны-автоматы, и можно звонить без ограничений, достаточно купить карту. Размеры камеры примерно 2,5 на 3 метра. В ней размещаются 4 человека. Было бы тяжело, будь камеры закрыты, но 8-10 камер отделены в блоки, и тут можно общаться со всеми.

***— После такого невеселого начала и истории с адвокатом оставалась ли у вас надежда на благополучный исход?***

— Первые пять дней – конечно, был шок. Но потом начинаешь думать, как можно защищаться. Я тогда еще не знал, что, исходя из процедуры, суть дела мало кого в Польше интересует. Я только успел передать информацию на свободу – через переводчика. Я спросил прокурора, могу ли я попросить переводчика сделать несколько звонков. Она спросила: с каким текстом? Я предложил написать. Она сказала: хорошо, я просмотрю и дам ответ. Я попросил, чтобы ответ был не через 30 дней, а сейчас. Она согласилась. Я написал, чтобы сообщили жене, друзьям.

Когда я был там, я не понимал, как мне можно помочь. Никакого аппарата у меня уже нет – а это важно. Зная ситуацию в Беларуси, можно предвидеть, какой там будет итог. Заткнут в следственный изолятор и потом лет пять будут что-то доказывать.

С другой стороны, я думал, что политикам, которым когда-то помогал, сейчас я, наверное, не нужен. Но оказалось, что кто-то обо мне помнит и готов мне помочь. И счастье, что здесь оказался Александр Пупейко и захотел принять эту тяжелую работу на себя. И что смог приехать мой давний друг.

Когда я понял, что есть возможность защиты и есть люди, которые готовы помочь, то стало реально обратить внимание на то, что «король-то голый». Я не понимаю, что пытаются мне инкриминировать, если в 1997 году в СП «Метинком» было 6 проверок. Мы были стерильны, и ни одна проверка – иначе я не пересек бы, как вы понимаете, границу – даже запятой лишней не нашла. И, кстати, человек из лукашенковского государственного контрольного комитета был уволен за то, что он у нас ничего не нашел. И оттуда же пришел новый человек и начал все по-новой.

Мне пришлось уехать в 1997 году из-за сложившейся ситуации, когда в год было по 6-7 проверок, когда на нас оказывали очень большое давление. Кроме того, я помогал симпатичным мне оппозиционным силам и не скрывал этого. Оказалось, что я не оценил остроты ситуации, которая могла возникнуть. Честно говоря, мне никогда не верилось, что эта власть переступит грань, за которой уже полудиктаторский режим...

***— 2 марта апелляционный суд продлил вам арест еще на месяц. Ожидали ли вы тогда, что сможете выйти из тюрьмы раньше?***

— Как раз в начале марта и появилась надежда. 1 марта у меня был адвокат Мартин Дзбаньски, который мне изложил ситуацию с правовой точки зрения. Но в тюрьме я понял, что там ничего быстро не бывает. Я увидел, как действует этот механизм: у меня были изъяты при задержании 200 долларов, так вот, прокурору понадобилось 30 дней, чтобы дать их в свободное распоряжение и не приобщать к материалам дела. Поэтому я понимал, что по законодательству меня могут держать до 4 апреля.

Кстати, что касается процедуры, то адвокату, да и суду временами, по-моему, трудно занять какую-то определенную позицию в вопросе передачи документов белорусской прокуратурой. Прокуратура может себе позволить прислать одно, потом второе. Для нее нет сроков, вопрос присылки дела, оказывается, сводится к тому, что генеральный прокурор написал, что Волк не заплатил налоги с таких-то сумм.

***— То есть, вы хотите сказать, что выдвинутые против вас белорусской прокуратурой обвинения основываются только на письме генерального прокурора Беларуси?!***

— Да, мое дело сегодня состоит из трех листов. Причем, суть занимает четверть страницы, а остальное – вопросы процедуры. Самое любопытное, что если бы эти три листа подписал английский генеральный прокурор, то все было бы в порядке – подразумевалось бы, что это чистая правда, и вопрос доказан. Но в нашем случае у суда были большие сомнения. Именно поэтому он принял решение об изменении меры пресечения, учитывая, конечно же, и ситуацию, которая была изложена в письмах от ОГП, Станислава Шушкевича, Хельсинкского комитета. Я хотел бы воспользоваться случаем, чтобы еще раз поблагодарить их всех за поддержку.

***— Почему прокуратура заинтересовалась вашей деятельностью через два года после того, как вы покинули Беларусь?***

— Наверно, сработали какие-то внутренние механизмы в прокуратуре, в каких-то силовых структурах – там же тоже надо работать. Я думаю, что это машина — она уже отлажена, настроена на определенные вещи. Хотя не исключаю, что есть и конкретные инициаторы.

***— Какие условия поставил суд, освобождая вас из-под ареста? С вас взяли подписку о невыезде или забрали паспорт?***

— Изменить меру пресечения могут две инстанции: прокуратура — до того, как дело передано в суд, либо сам суд. Насколько я знаю, это прокуратура вводит такие процедуры, как изъятие паспорта, необходимость регулярно отмечаться в полиции. Так как в моем случае ре-

# Мусім быць псіхічна здаровымі

Сусветная арганізацыя здароўя нездарма зрабіла зместам першага Дня здароўя ў 2001 годзе менавіта псіхічнае здароўе. Дастаткова сказаць, што цяпер у свеце каля паўмільярда чалавек маюць рознага кшталту псіхічныя расстройствы, а, па футуралагічных прагнозах, у новым стагоддзі галоўнай прычынай смяротнасці стануць зусім не СНІД, рак ці хваробы сэрца, а дэпрэсія. Спецыялісты называюць праблему псіхічнага здароўя на планеце транскантынентальнай.

Псіхічны стан нацыі дужа залежыць перш за ўсё ад палітыка-эканамічных фактараў. Таму да натуральнай наяўнасці пэўнага адсотка псіхічна хворых у любым грамадстве ў Беларусі дадаецца яшчэ багата ахвяраў вялізнага бязладдзя і недабрабыту. Не трэба забывацца і пра ўзбуяласць па краіне такіх спараджаючых парушэнні псіхікі асацыяльных з'явішчаў, як алкагалізм і наркаманія.

Псіхічна хворых выяўляць вельмі складана. Па-першае, у нас у краіне з-за беднасці не праводзяцца, як тое робіцца за мяжой, адмысловыя праверкі псіхічнага стану людзей так званым суцэльным патокам. Па-другое, мы дагэтуль не маем культуры здароўя. Большасць хворых проста не звяртаецца да ўрачоў. Прычым асабліва тое тычыцца мужчынаў, бо з усіх, хто звярнуўся па прафесійную псіхіятрычную дапамогу, жанчыны складаюць 75%, а хварэюць яны пры гэтым прыкладна аднолькава. Па-трэцяе, замінае тут і, у прынцыпе, дэмакратычны Закон «Аб псіхіятрычнай дапамозе і гарантыях правоў грамадзянаў пры яе аказанні». Шпіталізацыя ў псіханеўралагічныя ўстановы і лячэнне там могуць быць альбо добраахвотныя, альбо толькі праз суд. Тады ў судовым парадку павінна быць даказана, што чалавек сапраўды хворы і што ад яго зыходзіць небяспека іншым людзям.

Урачы кажуць, што ад псіхічных расстройстваў не застрахаваны ніхто, і стаць «псіхам» можа абсалютна любы. Прычым калі заўгодна – і ў дзіцячым узросце (у нас, напрыклад, 2,3% ад усіх дзетак – хворыя на душу), і ў старым веку. Паводле псіхіятраў, чалавек на працягу жыцця перажывае 8 крызісных перыядаў, калі ягоная псіхіка досыць значна вярэдзіцца, і маецца вялікая рызыка зрабіцца хворым на яе. Напрыклад, такая небяспека асабліва маецца на першым годзе жыцця, у школьным і падлеткавым узросце, у 40 гадоў і ў старасці (80% тых, каму за 60 гадоў, схільныя да самагубства). Калі зрабіць геаграфічна-псіхічны зрэз па краіне, то найгоршая сітуацыя тут на Магілёўшчыне і Гомельшчыне. А вось Мінск у лідэрах па шызафрэніі.



Дзень псіхічнага здароўя цікавы ў Беларусі і з тае акалічнасці, што тры месяцы назад дыягназ псіхічнай хваробы быў пастаўлены Аляксандру Лукашэнку (паводле псіхіятра Дзмітрыя Шчыгельскага, гэта «памяркоўная мазаічная псіхапатыя з паранаідальнымі і дыссацыяльнымі расстройствамі асобы»). З гэтай нагоды на нядаўняй прэс-канферэнцыі да Дня псіхічнага здароўя гучала пытанне наконт таго, ці павінны асобы, што займаюць высокія ўладныя пасады, праходзіць медычнае псіхіятрычнае асведчанне і ці можа на іх быць чалавек з мазаічнай псіхапатыяй? Галоўны псіхіятр міністэрства аховы здароўя Павел Рынкоў адказаў, што адмысловага парадку псіхіятрычнага абследавання для чыноўнікаў законам не прадугледжваецца, што такі агляд, маўляў, праводзіцца для ўсіх без выключэння грамадзянаў толькі па жаданні. А старшыня Асацыяцыі псіхіятраў Беларусі і загадчык кафедры псіхіятрыі Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі Раман Еўсцягнееў давёў, што псіхапатыя – гэта расстройства асобы з асаблівасцямі характару і паводзінаў, якія «рэзка адрозніваюць чалавека ад іншых людзей і ўскладняюць яго сацыяльную адаптацыю», а мазаічная псіхапатыя – гэта калі маюцца рысы, уласцівыя розным відам расстройства. Прычым гэта ўяўляе сабой не тое, што хвароба, а «сталы стан» на ўсё жыццё.

Разам з тым, на думку Р.Еўсцягнеева, чалавек, хворы на мазаічную псіхапатыю, займаць высокую дзяржаўную пасаду «безумоўна, можа». Ці адказаў доктар такім чынам, проста зыходзячы з факта рэчаіснасці, ці ў якім іншым кантэксце – невядома. Пра гэта з 7 па 21 красавіка падчас дзён псіхічнага здароўя, апрача іншага, і можна будзе беларусам падумаць.

Так што беларускія псіхіятры спадзяюцца, што з 7 красавіка ў псіханеўралгіі паболее прыярытэтнасці. У тым ліку дні псіхічнага здароўя мусяць стаць толькі пачаткам грунтоўнай і доўгатэрміновай праграмы па змяненні стаўлення грамадства да псіхічна хворых людзей. Разам з тым спажыўцы ці патэнцыйныя спажыўцы павінны навучыцца не дэпрэсаваць, не вар'яцець употай і не баяцца звяртацца па псіхіятрычную дапамогу і атрымліваць яе. Паводле галоўнага псіхіятра мінздароўя П.Рынкова, паралельна будуць рэарганізоўвацца і станавіцца эфектыўней і самі службы псіхіятрычнай дапамогі.

Дарэчы, для большай рэзананснасці дзён псіхічнага здароўя ўдзел у іх возьмуць, са словаў галоўнага псіхіятра Беларусі, вядомыя ў краіне асобы, у тым ліку «палітычныя фігуры», але хто канкрэтна, пакуль невядома.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## 15 гадоў чарнобыльскім шляхам

17-20 красавіка Мінск будзе прымаць гасцей і ўдзельнікаў міжнароднага кангрэса «Свет пасля Чарнобыля». У афіцыйным запрашэнні старшыня аргкамітэта Кангрэса прэзідэнт Фонду «Дзецям Чарнобыля» Генадзь Грушавы піша: «На парозе 21 стагоддзя чалавецтва мае права ведаць, як сучасная навука ацэньвае рэальны ўрон, нанесены Чарнобылем навакольнаму асяроддзю, жыццю і здароўю мільёнаў людзей. Прыйшоў час усвядоміць, якая адказнасць міжнароднай супольнасці перад народамі, што сталі закладнікамі ядзернай палітыкі буйнейшых дзяржаваў свету». Менавіта гэтыя праблемы стануць дамінантай на 5 Міжнародным кангрэсе «Свет пасля Чарнобыля» 17-20 красавіка – напярэдадні 15-й гадавіны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Кангрэс пройдзе пад дэвізам «Будучыня Дзецям – Шанс Свету». Форум зарганізаваны Фондам «Дзецям Чарнобыля» сумесна з Міжнароднай Асацыяцыяй гуманітарнага супрацоўніцтва пры садзейнічанні Федэральнай Асацыяцыі Чарнобыльскіх ініцыятываў Германіі і Міжнароднага Савета «Будучыня – Дзецям Чарнобыля» і пры падтрымцы грамадскіх ініцыятываў Беларусі і Еўропы.

Кангрэс распачне працу 18 красавіка ўступным словам Генадзя Грушавога. На форум запрошаныя Мітрапаліт Філарэт, кіраўніцтва міністэрства па надзвычайных сітуацыях, пасол АБСЕ Ханс-Георг Вік, прадстаўнік ЮНЕСКА К.Б.Тай.

Завершыцца Кангрэс сустрэчамі ягоных удзельнікаў з грамадскасцю, знаёмствам з чарнобыльскімі праектамі ды наведваннем дзіцячых, медыцынскіх, маладзёжных установаў і паездкай у чарнобыльскую зону.

**Юрась ДУБІНА**

# чтобы их боялись

шение принимал суд, то у него было три условия. Это, во-первых, конкретное место проживания в Польше, залог размером в 80 тысяч злотых и поручительство известной личности. Так что перед выходом из тюрьмы мне был отдан паспорт, в котором не было никаких отметок о моем задержании, только штамп о въезде в Польшу.

***— Однако ваше дело в Польше еще не закончено. 19 апреля польский суд рассмотрит вопрос об экстрадиции. Каким, по вашему мнению, будет решение суда?***

— Между Польшей и Беларусью есть договор о правовой взаимопомощи, который в том числе предусматривает и экстрадицию. И 19 апреля суд будет принимать решение по договору. У суда есть все полномочия решать — от полной экстрадиции до освобождения. Чем при этом руководствуется суд, сказать наверняка трудно, но предположить можно. Самое плохое, что в его юридическую функцию при решении дела об экстрадиции не входит рассмотрение дела по существу (чего бы мне очень хотелось). Чем будут руководствоваться судьи? Надеюсь, что здравым смыслом. Все политические отклики, данные Хельсинкским комитетом гарантии и само мое пребывание здесь до 19 числа, естественно, может их убедить, что нет смысла меня выдавать. Но каково будет решение – неизвестно.

***— В польской прессе началась дискуссия, в которую включились и правозащитные организации Польши, о том, что польско-белорусский договор о правовой взаимопомощи носит слишком широкий характер и практически вовлекает польскую правоохранительную систему в помощь белорусскому режиму. Общественное мнение, однако, не влияет на независимый суд. И все-таки, как вы считаете, эта дискуссия может сыграть какую-то роль в вашем деле?***

— Я, конечно же, человек заинтересованный, но я прочувствовал все «прелести» этого договора на себе. Такой широкий договор с государством, которое не является демократическим, доставляет хлопоты и самим полякам. Мучается прокуратура, но держит лицо – она получает невнятные материалы, которые невнятно доносит до суда. Все это слегка напоминает сумасшедший дом. Но все в него играют.

Я с 1999 года был в компьютере Интерпола. И при этом проехал множество различных государств, ни одно из которых не сочло нужным мною заинтересоваться. Почему? Потому, что видят текст «обвинения», видят, откуда пришло. Дальше вопросов нет. Но их не связывает двусторонний договор с Беларусью. С другой стороны, а как же с мафией, особо опасными преступниками? Для стран-членов Интерпола обычно оказывается достаточно листа на арест, высланного в рамках этой организации. Польша же мучается с такими случаями, как мой (а их становится все больше), когда белорусский режим преследует не подчинившихся ему бизнесменов.

Но я понимаю, что это в силах изменить исключительно Сейм. А польским политикам, видимо, этот договор не мешает. Но я не согласен с вами, что общественное мнение не влияет на суд. То, что мы сегодня с вами беседуем, это исключительная заслуга общественного мнения. Других вещей, что можно было бы «пощупать», у суда не было. Я понимаю, что судьи, с одной стороны, полистали присланные белорусской прокуратурой три листика, а с другой, оценили поддержку белорусских оппозиционеров и польских правозащитников, общественное мнение и приняли решение, которое приняли... Хотя мышеловка разжимается исключительно трудно и с большим скрежетом.

***— Приняло ли какое-либо участие в вашем деле израильское посольство – представительство страны, гражданство которой вы получили?***

— Дело в том, что израильское государство в отношении русских израильтян ведет себя исключительно пассивно. У них есть комплекс русской мафии. Если бы на моем месте был коренной житель страны, он бы суток не пробыл в полиции: моментально посыпались бы протесты, и поляки сами бы его отправили самолетом. Но израильтяне очень боятся русской мафии, хотя ее там не столько, как представляют, это обычный комплекс, который к тому же используется в политической игре. Если вам не понравился кто-то русского происхождения, то вы клеите ему ярлык «русская мафия» и ему уже трудно очиститься. Поэтому посольство в таких случаях ведет себя пассивно. Ко мне в тюрьму пришел консул, поинтересовался условиями. Но когда я начал говорить с ним о том, чем может помочь посольство, то получил ответ, что они во внутренние дела других государств не вмешиваются. Поэтому, конечно, я буду встречаться с послом, но, честно говоря, я не очень рассчитываю, что даже на сегодняшнем этапе посольство примет участие в моей судьбе.

***— Поддерживали ли вы отношения с оппозиционными политиками после вашего отъезда из Беларуси?***

— У меня очень хорошие отношения с Добровольским, мы с ним видались. Я встречался с теми, кто приезжал в Израиль, предлагал помощь, если она была нужна, мы обсуждали дела в Беларуси. В принципе, я старался не терять контактов, насколько это было возможно, хотя Израиль находится в стороне от европейских проблем.

***— Нанесла ли эта история ущерб вашим интересам?***

— Второй раз уже нанесла. Первый раз – это когда я вынужден был уехать из Беларуси и даже не смог продать свое имущество. Мне трудно оценить, есть ли сейчас какие-то прямые потери, но косвенные – бесспорно.

***— Как вы оцениваете сегодняшнюю ситуацию в Беларуси?***

— Сложно сделать издали адекватный анализ. Но, конечно, слежу, мне это близко, интересно, больно. И, на мой взгляд, хотя есть тенденция к ухудшению, но все большее количество людей понимает, что им не нужно то, что происходит сейчас. Да, оппозиция слаба. Но кто у нас оппозицию не треплет за ее слабость. Нет сильного, мощного кандидата, чтобы можно было пойти с ним на выборы. По крайней мере, мне из-за границы его не видно. Может, это и не так.

***— Если взять все-таки оптимистический вариант и предположить, что президентские выборы приведут к политическим изменениям в стране. Как вы считаете, найдутся ли у нас в стране или за рубежом те, кто рискнет поверить в неотвратимость политических изменений и инвестировать свой капитал и свои усилия в экономику Беларуси?***

— На сегодняшний день тот бизнес, который должен был взять узловые точки, с которым я вместе начинал в 1987 году, не существует. Эти люди сейчас либо в тюрьме, либо не у дел, либо уехали. Я не знаю примеров, чтобы кто-то из них работал до сих пор в Беларуси. Но смотрите: после 1937 года казалось, что интеллектуальная элита страны не восстановится никогда, однако потихонечку, потихонечку... И если завтра мы станем на иные рельсы, откроем двери, создадим условия, то люди найдутся. Я думаю, что господин Пупейко – один из тех людей, и я бы с удовольствием работал, потому что мне это близко. Я очень не хотел менять страну проживания. Я начал работать в бизнесе через 4 месяца после указа Горбачева о возможности открытия кооператива. Я просто сбежал с государственной службы и более туда не возвращался.

***— А если взять пессимистический вариант: выборы ничего не изменят в верхних эшелонах власти. Сколько, по вашему мнению, еще сможет просуществовать режим, который опирается не на реальную экономику, а в большей степени на российский газ и кредиты? И как долго Россия будет продолжать субсидирование режима в Беларуси?***

— Тут много факторов. Во-первых, это не пессимистический, это абсолютно реальный прогноз – чего я, естественно, не желаю. Я думаю, что он просуществует еще один президентский срок. До конца ли? Кстати, величина этого срока нам с вами не известна: она может увеличиться, стать пожизненной. И то, что родственники входят в управление государством, весьма симптоматично. Но то, что эта система управления себя изживет и обречена, это абсолютно ясно. Я не думаю, что если у власти в Беларуси останется все та же команда, то от нее что-то будет зависеть. Если Россия очень захочет и ей очень будет нужно, то, в принципе, она сумеет провести все свои решения. Вопрос: есть ли такое желание? Понятно, что у какой-то части политических элит России оно есть, а какая-то часть резко выступает против. Позиция Путина по этому вопросу мне не понятна. Я думаю, она никому не понятна из наблюдателей. Я думаю, что для них это действительно очень сложный вопрос: вкачаем деньги, а потом поменяется президент... И что, будем танки вводить, как в Прагу? Я думаю, что прагматичный взгляд России даст возможность Беларуси сохранить суверенитет в том виде, в котором он сегодня есть. Ну, а если придет к власти нормальный политик, то Беларусь сможет выбрать лучший путь.

***Интервью брала Людмила ГУЛЯКЕВИЧ***

## Удача егіпецкіх археолагаў

Нарэшце групе археолагаў пашанцавала знайсці неразрабаванае захаванне старажытнай егіпцянкі, якому болей за 2.600 гадоў. Яе каменны саркафаг літаральна ўяўляў сабой скарб – тут было 100 залатых амулетаў. Захаванне датуецца часамі 26-й дынастыі фараонаў – гэта VII-VI стагоддзі да новай эры. Вядома нават імя муміі. Жанчыну, што жыла так далёка ад нас у часе, звалі Нааса, яна была жонкай правіцеля аазіса Бахарыя.

Незвычайную унікальнасць знаходцы надаюць не 100 залатых амулетаў, хоць яны і ацэненыя спецыялістамі як выдатныя творы старажытнага егіпецкага мастацтва. Справа ў іншым. Аазіс Бахарыя размешчаны ў гэтак званай Даліне муміяў, дзе з непраглядных часоў прамышляюць рабаўнікі захаванняў. Толькі за апошнія два гады ў гэтай мясцовасці, за 375 кіламетраў на поўдзень ад сталіцы Егіпта, знайшлі каля 300 забальзамаваных астанкаў заможных егіпцян. Аднак бальшыня старажытных магілаў была разрабаваная яшчэ ў часы ўладарства тут рымлян. Тым больш значна, што магіла Наасы захавалася некранутая. Яна знойдзена на ўскрайку мёртвага горада Бівіці, які існаваў у часы грэка-рамаанскай эры ((III ст. да н. э. – IV ст. н. э.), калі рабаўнікі гандлявалі не толькі залатымі ўпрыгожваннямі, што знаходзілі пры муміях, але і здробненымі і патоўчанымі часткамі саміх муміяў, якія тагачасныя алхімікі і медыкі выкарыстоўвалі ў магічных і медыцынскіх мэтах.

Тым не менш, засведчана, што найбольшыя страты егіпецкія старажытнасці панеслі не ў антычную эпоху, а ў цывілізаваныя часы, калі вялося будаўніцтва Суэцкага канала. Авантурысты і несумленныя вучоныя, што панаехалі ў Егіпет, кралі недарабаванае іх папярэднікамі – зганьдляваць у іх танна некалькі муміяў лічыў для сябе гонарам любы еўрапейскі музей.

Таму ў еўрапейскіх музеях егіпецкіх старажытных рэчаў часам болей, чым у самім Егіпце. Аднак знаходка акрэсленага вышэй багатага захавання ўсё-ж такі не была поўнай выпадковасцю. Даследаванні раёна старажытных могільнікаў, які займае плошчу ў пяць квадратных кіламетраў, вядуцца пад кіраўніцтвам археолага Габалаха Алі Габалаха ўжо не першы год. Летась экспедыцыя знайшла тут магілу Гада Кхензу Эйюра Ангха – так звалі мужа Наасы, а таксама магілу яе бацькоў. Ёсць нешта надзвычай дзіўнае ў такім сямейным вяртанні праз тысячагоддзі.

**Валянціна ДУНІНА**

## Адкрыецца «Інтэрнэт-кафэ Х'юлет-Пакард»

Кампанія «Х'юлет-Пакард» і яе адзіны аўтарызаваны дылер у Беларусі фірма *ELKO* аб'явілі аб рэалізацыі сумеснага праекта па адкрыцці ў Мінску Інтэрнэт-кафе. У новым Інтэрнэт-кафе, якое распачне працаваць 25 красавіка па вуліцы Няміга, 8, будзе прадстаўленае найноўшае абсталяванне кампаніі «Х'юлет-Пакард»: трынаццаць рабочых станцыяў, апошнія мадэлі прынтэраў і сканераў, якія працуюць у адзінай лакальнай сетцы з выхадам у інтэрнэт. Апрача хуткаснага доступу ў інтэрнэт, наведвальнікі атрымаюць магчымасць арганізоўваць відэаканферэнцыі, запісваць інфармацыю на свае электронныя носьбіты, сканіраваць і раздрукоўваць тэкставыя і графічныя адлюстраванні, захоўваць звесткі. Як абяцаюць прадстаўнікі «Х'юлет-Пакард» і *ELKO*, кошт аднай гадзіны ў новым Інтэрнэт-кафе будзе на сярэднім узроўні сярод падобных установаў беларускай сталіцы. Кансультацыі і бесперабойную працу абсталявання забяспечаць шэсць кваліфікаваных інструктараў.

Апрача гэтага, «Х'юлет-Пакард» прадставіў на беларускім рынку новыя тавары: ноўтбукі, камп'ютэры, сканеры і прынтэры. Напрыклад, новая прадукцыя ў лінейцы ноўтбукаў *«HP OmniBook 500»* – уяўляе сабою звыштонкі ноўтбук для мабільных карыстальнікаў, які дазваляе ім пастаянна заставацца на сувязі ў рэжыме рэальнага часу. Гэты ноўтбук мае таўшчыню каля 2,5 сантыметраў, важыць 1,6-1,7 кілаграма і забяспечвае час бесперапыннай працы ад акумулятараў на працягу 9 гадзінаў. Рознічная цана гэтай мадэлі на базе *Intel* працэсара *Celeron* для беларускага рынку складае ад 1.700 долараў ЗША (без ПДК).

**Даведка БелаПАН.** Кампанія *Hewlett-Packard* – вядучы сусветны пастаўшчык рашэнняў і паслугаў у галіне камп'ютэрных тэхналогіяў. Кампанія сканцэнтраваная на выкарыстанні магчымасцяў інтэрнэт і пашырэнні спектра электронных паслугаў. У 2000 годзе агульны абарот кампаніі склаў 48,8 мільярда долараў ЗША.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН**



# Стократ ограбленный

*В Минске как-то незаметно вышла удивительно интересная книга — «Нараджэнне беларускага музея». Ее автор – историк Александр Гужловский. Название книги напоминает о словах знаменитого белорусского поэта, ученого и общественного деятеля Тамаша Зана, который еще в 1830 году говорил, что «дзейнасць музеяў... у значнай ступені паспрыяла развіццю навук і мастацтваў, а мноства разнастайных прадметаў (музейных коллекций) вывелі чалавечыя думкі са сферы мараў і здагадак у свет сапраўдны, невычарпальны ў сваёй прыгажосці і дасканаласці».*

*Однако, история белорусского музея по сути своей печальна, ибо в ее основе лежат не столько обретения, сколько потери. Об этом — разговор с автором книги.*

***— Как рождалась «Нараджэнне беларускіх музеяў»?***

— Вся книга — фактически моя кандидатская диссертация. Писалась она еще в советские времена, а потому у меня была возможность объездить многие архивы бывшего СССР. Сегодня командировку на месяц, скажем, в Москву, Ленинград, а тем более в Вильнюс, не оплатит никто.

***— Если вы писали диссертацию еще во времена СССР, то почему она издана только сейчас?***

— Я бы может и сейчас ее не издал, если бы ко мне не пришел аспирант из Академии наук, который сказал, что пишет диссертацию по истории музеев.

***— «Но ведь я уже написал такую диссертацию!» — сказал я.***

— «Ну и что, — ответил аспирант, — у меня — новый подход к этой проблеме». И тут я понял, что надо столбить тему, поскольку пока о диссертации никто не знает, будут появляться ее дубли.

***— Несмотря на то, что ваша книга — научный труд, ее чтение вызывает массу эмоций. К сожалению, весьма печальных...***

— Вообще, книга получилась грустная, даже, более того, трагичная. Она охватывает период от эпохи позднего средневековья до начала Первой мировой войны. В ней фактически показано, как был не осуществлен шанс построить подлинно Национальный музей, создать культурные центры на основе собственного культурного наследия.

***— В чем, на ваш взгляд, причины того, что белорусский музей так и не был создан?***

— В геополитическом положении нашей страны, в отсутствии государственности, из-за чего здесь ничего не задерживается, а «вымывается» в другие страны. Между тем, наличие национального музея — важнейший фактор формирования национального самосознания народа. Особенно это было важно для 19 века, который называют «золотым веком музеев». Именно тогда возникли Эрмитаж, Лувр, Британский музей и многие другие.

***— Когда начался процесс «вымывания» из Беларуси культурных ценностей?***

— После женитьбы князя Ягайло на королеве Ядвиге. Согласно условиям брачного договора, он должен был выплатить отступное бывшему жениху Ядвиги в размере 200 тысяч червонцев, а также перенести из Вильно в Краков сокровищницу своего отца и деда. Последнему условию поляки придавали символическое значение — в обмен на польскую корону Ягайло отдавал в столицу Польши один из важнейших символов государственности Великого Княжества Литовского.

Сильным ударом стали три раздела Речи Посполитой, когда из Несвижа были вывезены практически все коллекции. К началу 19 века там уже ничего не осталось. Нельзя забывать и восстание 1831 года, когда в Эрмитаж забрали знаменитые сапежинские коллекции. Потом — восстание 1863-1864 годов, когда снова же шли репрессии против повстанцев, в основном шляхты, в маентках которой в то время были сосредоточены культурные ценности. А то, что называется «национальным музеем», формируется как раз на основе частных коллекций. Так было в Германии, Франции, Польше, когда люди добровольно отдавали в музеи ценные вещи, понимая всю важность существования подобных учреждений.

Ну и последний разрушительный этап — Первая мировая война и революция, во время которых с нашей земли были вывезены остатки культурных ценностей.

***— А было ли что вывозить? Может, Беларусь изначально была бедна на культурное наследие?***

— Возьмите хотя бы один Несвиж. Коллекция живописи, которая, по свидетельству Владислава Сырокомли, насчитывала 984 картины, выполненные на полотне и дереве, драгоценные скульптуры, ковры, тканые золотом слуцкие пояса, коллекция оружия, печатей, перстней, библиотека, которая насчитывала около 20 тысяч томов книг и множество рукописей.

Заслуживает внимания и сбор рода Сапегов, где были свои оружейная и нумизматическая коллекции, последняя насчитывала 1.125 единиц, подборка старинных гравюр и живописных полотен... А ведь были еще коллекции Хрептовичей, Яблоновских, Тизенгаузов и многих других. Библиотеки, замечательные собрания живописи, декоративно-прикладного искусства имелись во всех резиденциях шляхты. Среди них были уникальные. В европейских странах такие собрания ложились в основу национальных публичных музеев. Но из-за неблагоприятных политических обстоятельств, прежде всего, борьбы за белорусские земли, которая велась между Россией и Польшей на протяжении веков, в Беларуси этого не произошло.

***— А как обстояло дело в послереволюционные годы?***

— В 1991 году я нашел в архиве списки изъятых в 20-е годы из белорусских государственных музеев ценностей для продажи их на аукционах Западной Европы и опубликовал их.

***— Много ли было вывезено?***

— Фактически все, что представляло какую-либо антикварную рыночную ценность. Естественно, что не брали этнографию, поскольку она не представляла интереса для западных покупателей, а изымали все то, что могло быть продано на крупнейших в то время аукционах Амстердама, Парижа и Лондона. Причем, все делалось неторопливо и профессионально, из Ленинграда специально приехал человек, который и отбирал в наших музеях для продажи лучшие предметы искусства.

***— Что конкретно тогда было вывезено из Беларуси?***

— Гравюры Дюрера, фламандские гобелены эпохи ренессанса, итальянская мебель, предметы декоративно-прикладного искусства. Очень много было вывезено еврейских древностей, предметов культа, книг, подсвечников, торы в дорогих футлярах и многое другое.

***— Кто покупал все это?***

— Многое приобретали американцы. В то время как раз формировались основные музейные фонды США, очень активно действовали Мэлоны, Рокфеллеры, которые скупали на этих аукционах практически все, не глядя на цену, причем, не только привезенное из России. Тогда американцы очень активно действовали на рынках Западной Европы, поскольку до войны еще не было конвенции ЮНЕСКО, запрещающей вывозить культурные ценности за пределы той или иной страны. Национальная художественная галерея США, самый крупный после «Метрополитен» художественный музей страны, — фактически, дар одного человека, Эндрю Мэлона. Его собрание предметов европейского искусства формировалось в первой половине 20 века и было оценено в $ 50 млн. в ценах 1940 года. Он пожертвовал свою коллекцию для создания Национальной художественной галереи, и когда ему предложили назвать ее Национальной галереей Мэлона, он отказался, сказав, что это может отпугнуть других дарителей. Вот вам акулы капитализма...

***— Остатки белорусских культурных ценностей начали вывозить сразу после революции?***

— Буквально. А в 1929-1930 добирали собранные в музеях крохи, поскольку понадобились деньги на индустриализацию.

***— Так пострадала только Беларусь?***

— Нет, это был общесоюзный процесс, когда изымали ценности из Эрмитажа, из Исторического музея в Москве, из Киевского музея современного искусства и так далее. Не обошел это процесс и нас. Стране были нужны деньги для покупки на Западе тракторов и прочей техники... Те трактора давно превратились в прах, а мы в результате не имеем своего Национально-исторического музея. Обратите внимание, прошло уже десять лет с того времени, как министром культуры РБ был подписан Указ о переименовании бывшего Государственного музея БССР, который находится на Маркса, 12, в Национальный музей истории. И по сей день, уже десять лет идут бесконечные временные выставки, а серьезную экспозицию построить не могут. И понятно, почему: не на чем показывать целые периоды нашей истории. Как рассказать о периоде Великого Княжества Литовского? Картинками, копиями... Но ведь в музей человек приходит, прежде всего, для того, чтобы посмотреть на подлинник, а их-то и нет.

***— И, тем не менее, сегодня в Беларуси музеи существуют, и так или иначе по представленным в них экспонатам можно составить представление о нашем прошлом.***

— Это кажется еще более удивительным, когда знаешь, что здесь было в 1944 году, после освобождения Беларуси. Диву даешься, как на этой пустыне можно было что-то сделать. Но музейные работники совершили своеобразный подвиг, ведь в те годы министерство культуры оценивало работу музея лишь по одному-единственному показателю: количеству экскурсий. И премии тогда давали не за успешную научную работу, а за количество проведенных по музею экскурсантов. В этой ситуации жесткого идеологического диктата подвижники нашли экспонаты, создали экспозиции. Я уже закончил работу над второй частью книги, которая охватит период с 1917 по 1941 год. Хочу в конце ее сделать дополнение — мартиролог всех репрессированных музейных работников Беларуси.

***— Много ли их было?***

— Почти все, кто имел неосторожность заняться мирным музейным делом...

***— Выходит, вторая книга тоже будет грустной?***

— Как и вся белорусская история. Но, тем не менее, знать это нужно.

**Владимир ТАРАЗЕВИЧ**

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1697 Нумар падпісаны ў друк 5/04/2001 (15:00) Наклад — 9.880